


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

№ 3(685)
Сакавік 2023 г.



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*


# 25 Сакавіка - Дзень Волі




## Гуканьне Вясны на беразе ракі Гудзон

Пасьля амаль трохгадовага перапынку, выкліканага пандэміяй карона-вірусу, беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў правялі традыцыйны абрад Гуканьня Вясны ў Осынінгу, штат Нью-Ёрк. У маляўнічай мясьціне на беразе ракі Гудзон сабраліся неабыякавыя да беларускай культуры і традыцыяў людзі. Нагода – Гуканьне Вясны, абрад, які праводзілі нашыя продкі, каб скончылася доўгая халодная зіма, каб сьвятло і цяпло вярнулася да людзей.



Базай сьвяткаваньня стаў лодачны клюб у мястэку Осынінг, на поўнач ад гораду Нью-Ёрку. На флягштоку перад клюбам лунаў бел-чырвона-белы нацыянальны беларускі сьцяг поруч з амэрыканскім сьцягам. Напярэдадні быў досыць халодны ветраны дзень, але акурат на імпрэзу дзень выдаўся выдатны, лагодна сьвяціла сонейка, якое ўжо пачало добра прыграваць, і амаль не было ветру.

У залі лодачнага клюбу, які стаіць на самым беразе ракі Гудзон, удзельнікаў імпрэзы віталі гасьцінныя гаспадары імпрэзы сп-ва Лена і Пётра Рыжыя. Яны прыгатавалі шмат разнастайных страваў, у тым ліку нацыянальных беларускіх, для ўсіх жадаючых.

Пасьля падмацаваньня смачнай ежай загукальнікі сабраліся на пляцоўцы каля ракі, і пачалося традыцыйнае сьвяткаваньне Гуканьне Вясны, якое вялі сп-ні Лена Рыжая і Ганна Шарко. Напачатку Лена распавяла пра сутнасьць абраду, што ён уключае ў сябе, і як трэба ўдзельнічаць у ім. Як і кожны іншы традыцыйны абрад, Гуканьне Вясны ў пэўным сэнсе драматычнае прадстаўленьне

*заканчэньне на бачыне 3*

# Першая армія Галяктыкі

Днямі стала вядома, што магчымымі парушальнікамі паветранай прасторы Паўночнай Амэрыкі маглі быць іншаплянэтчыкі. Агенцыя "Асашэйтэд Прэс" паведаміла, што амэрыканскія зьнішчальнікі зьбілі таямнічы "васьмікутны лётаючы аб'ект над возерам Гурон, і гэта ўжо чацьвёрты выпадак пралёту падобных аб'ектаў над Паўночнай Амэрыкай. Афіцыйныя асобы Пэнтагону заявілі, што будуць "больш уважліва ўзірацца ў радары". Паветраная прастора над Амэрыкай некалькі разоў закрывалася для авіяцыйнага руху.

Усім яшчэ ў памяці ганебныя ўцёкі ЗША з Аўганістану, калі каляпс аўганскіх праўрадавых узброеных сілаў выклікаў ланцуговую рэакцыю вокаймгненных перамогаў Талібану. У падарунак пераможным ваярам Алага засталіся ўсе даробкі 20-гадовай ангажаванасьці ЗША ў гэтай краіне, ад жаночых школаў да гораў вайсковага начыньня й амуніцыі на дзясяткі мільярдаў даляраў нашых з вамі грошай. Большасьць вайсковых экспэртаў лічыць, што манэра, у якой ЗША сыйшлі з Аўганістану, кінуўшы сваіх паасобных грамадзянаў, а таксама альянтаў і зброю, падштурхнула Пуціна і ягонае шавіністычнае атачэньне зрабіць вырашальны крок і скіраваць "другую армію сьвету" на адкрытую агрэсію супраць Украіны.

Левארадыкальныя сілы, змагаючыся супраць "мілітарызму", увесь час спрабуюць дабіцца скарачэньня выдаткаў на вайсковыя патрэбы, спасылаючыся, між іншага, на тое, што "на Амэрыку ніхто не зьбіраецца нападаць", што краіны Заходняй Эўропы імкліва дэмілітарызуюцца і скарачаюць войскі, і што вайсковыя асігнаваньні выкарыстоўваюцца неэфэктоўна і марнатраўча (адзіны слушны аргумэнт). Так была ледзь не спыненая праграма распрацоўкі зьнішчальніка 5-га пакаленьня F-35, а наагул сьпіс праектаў, ад якіх Пэнтагон (міністэрства абароны ЗША) мусіў адмовіцца, займае на Вікіпэдыі некалькі старонак. Прынамсі так было да пачатку ўварваньня Расеі ва Ўкраіну, пасьля чаго тыя галасы сьцішыліся – але ці надоўга.

Вялікі ўплыў мае "абароненасьць акіянамі", фальшывае пачуцьцё бясьпекі, паўтара стагодзьдзі адсутнасьці баявых дзеяньняў на кантынэнтальным абшары ЗША. У грамадзтве праз сыстэму адукацыі й прапаганды з масавых мэдыяў у духу пост-мадэрновых тэорыяў "сацыяльнай справядлівасьці" дзесяцігодзьдзямі культывуецца нігілістычны падыход да войска і пытаньняў абароны, які можна параўнаць з утапізмам і нігілізмам у адносінах да праваахоўных структураў (дэфінансаваць паліцыю, адмяніць заклад арыштантам). Усяляк падкрэсьліваліся паразы й заганы падчас войнаў, якія ЗША вялі ў Віетнаме, Іраку й Аўганістане – замоўчваючы, што часта тыя заганы й згаршэньні былі выкліканыя акурат дзеяньнямі ўраду пад ціскам грамадзкай думкі, сфармаванай праз хібны аналіз і фальшывую інфармацыю. Пераглядаецца ўся роля ЗША ў сыстэме міжнароднай бясьпекі, усё гучнэй зробяцца заклікі, каб Амэрыка адмовілася быць "міжнародным паліцаем".

Канешне, нігілісты й утапісты не задумваюцца над наступствамі сваіх дзеяньняў. Для нармальнага нігіліста і ўтапіста досыць свайго падсьвядомага перакана初ньня, што як абрынецца аб'ект іхнай разбуральнасьці, дык усё неяк само сабой направіцца, і ўсе будуць шчасьлівыя і вясёлыя. Але досьвед падказвае, што сытуацыя можа толькі пагоршыцца, выклікаючы незьлічоныя пакуты і сьмерць.



У спалучэньні зь нігілістычным стаўленьнем да абароны стварылася і сучаснае ўяўленьне пра сусьветны парадак. Хаця ён збольшага трымаецца на амэрыканскіх авіяносцах, але большасьці падаецца, што ён неяк сам сабой вісіць у паветры ці ў атмасфэры, дзеля правілаў узаемнай ветлівасьці й добрага тону.

Такія павевы дайшлі нават да найвышэйшых флётскіх колаў Амэрыкі, што сталі заяўляць пра перагляд ваеннамарскіх дактрынаў і пра адмаўленьне ад прынцыпу кантролю над морамі як "атавізму халоднай вайны" і "рэштакаў імпэрыялістычных памкненьняў". Разумнікі, што карыстаюцца даверам грамадзтва і атрымліваюць шасьцізначныя заробкі за свае "прароцтвы", забываюцца на тое, што калі скасаваць прынцып кантролю над морамі (Command of the Sea), як тады абараніць сыстэму глябальнай стабільнасьці й сусьветнага гандлю, што базуюцца акурат на морах?! Хто і як будзе іхным гарантам, калі ваенны флёт ЗША (U.S. Navy) страціць кантроль над морамі? Рысы грамадзкага раскладу, што назіраюцца ў агульнаграмадзянскай супольнасьці, сталі зьяўляцца і ва ўзброеных сілах, у выглядзе лявацкіх дактрынаў змаганьня за "разнастайнасьць, раўнату і ўлучанасьць" (Diversity, Equity, Inclusion-DEI) й шарлятанскай тэорыі пра антрапагенную зьмену клімату. Замест асвойваньня сваіх баявых тэхналёгіяў і дасканаленьня баявой падрыхтоўкі жаўнеры і матросы занятыя вывучэньнем фальшывых тэорыяў і даглядам "экалягічных тэхналёгіяў". Прыкладамі цяперашняга стану амэрыканскага флёту могуць быць сутыкненьні эсьмінцаў "Джон Макэйн" і "Фіцджэралд", пажар і зьнішчэньне дэсантнага карабля "Баном Рычард" *(на здымку)* у выніку падпальніцкіх дзеяў аднаго "расчараванага" рэкрута, калі сабаку пад хвост пайшлі больш мільярду нашых з вамі грошай, а сам падпальнік быў апраўданы й пушчаны на свабоду.

Амэрыканскі флёт ня браў удзелу ў баявых дзеяньнях з часоў бітвы пры Лейтэ і высадкі дэсанту падчас Карэйскай вайны. Часы скарочанага фінансаваньня й расслабленьня мірнага пэрыяду могуць перайсьці ў катастрофы, як было ў Пэрл-Харбары ў 1941 годзе, і ў Карэі ў 1950 г.

Час, скрадзены ад падрыхтоўкі да змаганьня з патэнцыйным ворагам – гэта падарунак тому ворагу. Гэта павелічэньне варожых шанцаў на перамогу. Аднак вайскаводы і абаронныя аналітыкі ўважаюць, што ўсё рухаецца ў слушным кірунку, нагадваючы выхаванцаў дзіцячага садка, што сьпяваюць песеньку "Хай заўжды будзе сонца". Але сонца тое, сонца свабоды, дэмакратыі й глябальнай бясьпекі, можа зьнікнуць за хмарамі захопніцкіх агрэсіяў, гегемагізму і спробаў пераразьмеркаваць балянс сілаў у сьвеце. І зноў жа штуршок для гэтага, спакушэньне, даюць самыя ж

заканчэньне на наступнай бачыне

заходнія дэмакраты й Злучаныя Штаты. Як некалі амэрыканскія інвэстыцыі, абсталяваньне й тэхналёгіі стварылі сталінскага імпэрыялістычнага джына, якога пасьля немагчыма было загнаць у бутэльку, так і цяпер інвэстыцыі, абсталяваньне й тэхналёгіі, зноў амэрыканскія, стварылі новага джына – кітайскага. Кожная слабіна і крок назад фіксуюцца і суправаджаюцца наступам і спробай захопу. Вакуум, створаны ў любой дзялянцы, будзе запоўнены непрыяцелямі Захаду і Амэрыкі, найперш Кітаем і Расеяй, што ўжо аб'ядноўваюць свае намаганьні – як гэта паказваюць хоць бы супольныя марскія манэўры КНР і РФ ля берагоў Паўднёваафрыканскай Рэспублікі, якой кіруе прарасейская партыя АНК, што адбываюцца цяпер, у гадавіну агрэсіі супраць Украіны.

Што да ўсяго гэтага нам, беларусам Амэрыкі? Гэта яшчэ раз пацьвярджае, што свабода не даецца назаўсёды і не даецца бясплатна. Пацьвярджае, што ўсё ў сьвеце спалучана і павязана, часам у самы непрадказальны спосаб. Мы мусім быць гатовыя да любога разьвіцьця падзеяў і бранаіць сваю Бацькаўшчыну-Беларусь, а таксама і свой дом – Амэрыку, спрыяць, каб яе армія была першай у цэлай Галяктыцы.

**Віталь ЗАЙКА**

# Гуканьне Вясны

*заканчэньне з бачыны 1*

міталягічных падзеяў, якія мусяць паўплываць на будучую хаду падзеяў рэальных. Падчас Гуканьня Вясны прысутныя водзяць карагоды, заклікаюць вясну сьпевамі: “Вясна, хадзі да двору! Нясі ключ з сабою, Зіму замыкаці, Вясну адмыкаці!” Але зіма не здаецца адразу, і трэба дапамагчы вясьне перабароць і перамагчы зіму. Чуліся сьпевы “Вясна красна на ўвесь сьвет”, “Вол бушуе – вясну чуе”, “Пасеялі дзеўкі лён”, “Жавароначкі, прыляціце, вясну красную прынясіце”. Арганізаткі сьвята ўдала запявалі традыцыйныя сьпевы, і грамада гучна іх падхоплівала.

Удзельнікі заклікалі птушак хутчэй прылятаць і прынесьці людзям цяпло і сонца на сваіх крылах. Пасярод карагоду паставілі лялькьку, выяву ведзьмы Марэны, як сымболь зімы, холаду ды зла, каб ізаляваць яе і прагнаць, і каб зь ёю сыйшлі ўсе нашыя праблемы, ды хутчэй запанавала вясна ды цёплыя дні. Загукальнікі клікалі вясну, каб прыйшла і прынесла з сабою “цёплыя дзянёчкі, частыя дажджочкі, зялёную травіцу”. У сьпевах-вясьнянках прысутнічаў своеасаблівы прыпеў перагукваньня: “Гу-у-у!”. Удзельнікі, што ідуць карагодам па сонцы, уздымаюць рукі ўгару, узносячы іх у звароце да Сусьвету. Адсюль сьвята і атрымала назву – Гуканьне Вясны.

На полі дзе адбывалася імпрэза былі расстаўленыя стылізаваныя выявы птушак, як заклік да іх прынесьці доўгачаканую вясну на сваіх крылах. Загукальныя песьні й карагоды зьмяняліся вясёлымі гульнямі з жартамі ды пацалункамі, што асабліва падабалася моладзі. Былі новыя гульні як перацягваньне канату і зьбіраньне раскіданых трэсак для хлопцаў, і зьбіраньне раскіданых бульбінак – для дзяўчатаў. Хто зь іх назьбірае найбольш, той, адпаведна, першым у гэтым годзе ажэніцца, або выйдзе замуж. Хлопцы й дзеўкі таксама хадзілі “сьценка на сьценку” у традыцыйным ігрышчы.

Затым быў агульны фатаздымак на беразе Гудзону, пасьля чаго імпрэза працягвалася ў залі лодачнага клюбу, дзе ўдзельнікі працягвалі падсілкоўвацца, камегаваліся зь сябрамі, танчылі, ды заводзілі новыя знаёмствы. Можна было таксама заняцца пляценьнем паясоў. Выдатна, што гэткія імпрэзы як Гуканьне Вясны яднаюць нашых суайчыньнікаў з розных мясьцінаў ня толькі ў Нью-Ёрку і ваколіцах, але і па ўсёй Амэрыцы.

Сёлетняя імпрэза сабрала шмат удзельнікаў з розных штатаў. Многія зь іх прывезьлі з сабою сваіх малых дзяцей. Хочацца спадзявацца, што імпрэза Гуканьня Вясны будзе мець толькі добрыя наступствы, і што сілы зімы, цемры, і кожная іншая навала будуць пераможаныя. Што на нашай Бацькаўшчыне сілы сьвятла пераможгуць носьбітаў цемры й пакутаў, і Беларусь перастане быць паняволенай цёмнымі антынацыянальнымі сіламі, і як найхутчэй вызваліцца і стане сапраўды вольнай, сапраўды незалежнай і сапраўды беларускай краінай.

Асаблівая падзяка за ўдалую імпрэзу належыцца Алене і Пятру Рыжым, Ганьне Шарко і Аляксандру Мазгавому, Ганьне Худзянковай, тэксты сьпеваў падрыхтаваў Сяржук Сай.

**Віталь ЗАЙКА**



# Жэрдкі ў плоце

Ці ведаюць беларусы пра тое, што нашая рэчаіснасьць ужо ніколі ня будзе такой як пару тыдняў таму назад, калі была запушчаная штучная інтэлігенцыя (ChatGPT і іншыя)? Раней па інтэрнэце гуляла ШІ (Artificial Intelligence) для стварэньня вобразаў. Цяпер прыйшоў час для выпуску магутнага па сваіх магчымасьцях генэратара тэкстаў. Пра тэхнічныя магчымасці я расьпісвацца тут ня буду. Скажу толькі, што піша ён нашмат лепш за большасьць беларусаў, у тым ліку і па-беларуску. Усьлед за генэратарам тэкстаў і вобразаў, ідуць генэратары голасу, жывыя аватары і шмат-шмат чаго іншага. Можна сказаць, што гэта толькі прэлюдыя да поўнай віртуальнай рэчаіснасьці і канцэпцый тыпу – матрыца. Пра тое, што мільёны застануцца бяз працы і нават без пэрспэктывы на працу, адкрыта гавораць нават самыя стваральнікі такіх тэхналогіяў. Навошта патрэбны будзе офісны работнік, які спажывае гэкталітры кавы, электраэнэргіі і яшчэ любіць качаць свае правы, калі штучная інтэлігенцыя зробіць гэтую працу без фанабэрыі, за тры сэкунды і часам больш эфэктна і якасна. Да пабачэньня, капірайтэры, рэклямшчыкі, мэнэджэры аддзелаў продажу, высылкі і скаргаў. Да пабачэньня кепскія юрысты, пасрэдныя настаўнікі і некрэатыўныя крэатыўшчыкі. Цюцю перакладчыкі, дызайнэры, праграмісты і іншая офісная жамяра. Для вас знайшлі замену. Хто не пасьпее хутка адаптавацца і зразумець, што адбываецца, таму прыйдзецца зьнікнуць.

Можа хто помніць, як я ў адным з нумароў “Вестак” анансаваў кулінарную кнігу пра яйка і яешню? Зрабіў кароткае апісаньне канцэпту і папрасіў штучную інтэлігенцыю напісаць невялічкі ўступ да такой кнігі. Пасьля на аснове апісаньня зрабіў таксама выяву. Вось, што прыкладна атрымалася – толькі трошкі падправіў беларускі пераклад:

## Ода магутнаму яйку

О, сьціплае яйка. Цябе так часта ігнаруюць, так часта вараць да гумовай кансыстэнцыі і падаюць зь нейкім дзіўным шкадаваньнем. Але, дарагі чытач, я прашу цябе перагледзець гэты ўнівэрсальны і смачны інгрэдыент. Бо ў руках умелага кулінара яйка можа ператварыцца ў гастранамічны шэдэўр. Падарожнічаючы па старонках гэтага фаліянту, вы адкрыеце для сябе бясконцыя магчымасьці, якія можа прапанаваць яйка. Ад сьціплага смажанага яйка да больш вытанчанага амлета, яйка – гэта кулінарны хамэлеон, які адаптуецца да любога густу і спосабу прыгатаваньня. Такім чынам, давайце аддамо даніну павагі гэтаму Боскаму стварэньню і паднімем лапаткі ў знак вітаньня з магутным яйкам. Таму што толькі дзякуючы нашай любові і павазе да гэтага сьціплага інгрэдыента мы можам раскрыць увесь “ЯйГО” патэнцыял і дасягнуць неймаверных вынікаў.



* * *

Ці я толькі што стаў першым беларускім аўтарам-робатам?

**Віталь ВОРАНАЎ**

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

В. Балашчэнка ..........60
Я. Кобак ..................60
У. Косак ...................60

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

В. Балашчэнка ............30
Я. Кобак ....................30
У. Косак ....................30

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня ***“Пагоня”,*** калі ласка, своечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***“Весткі й Паведамленьні”.*** *(Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*